На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

# Народная Воля

**№ 207 (559)**

Серада, 18 лістапада 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



Lintec Computer. Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"

ООО Экопроммеханизм. ЭЛЕКТРОТЕХНИКА от "А" до "Я". Тел./факс:(017) 283-65-70, 269-52-13, 268-03-95.

Электротехническая продукция ELPROD. Тел. (017) 264-26-71.

Пейджинговую связь редакции обеспечивает МОБИЛКОМ пейджинг-система (017) 222-46-51 (017) 222-46-52

К&К. Лампы, кабель, светильники, прожекторы, электрооборудование 8-(017)-213-70-13. Кальченко & К°


Васіль ГРОДНІКАЎ



## 3.Страх і дыктатура чэрні

### Ці будуць калі-небудзь беларусы людзьмі звацца?

**(Працяг. Пачатак у №№205, 206.)**

### Парфума для эканомікі

Мяне не перастае здзіўляць: прэзідэнт дазваляе сабе такія вольнасці, як выхваляцца перад усім народам сваёй шчодрасцю: "Я даў "Гарызонту" вось столькі мільярдаў...", "Я дапамог такому вось раёну, даўшы яму столькі мільярдаў...", "Я даў вам вялікія грошы, а вы цяпер...". Кожны раз (і не лянуецца ж!) падкрэслівае, дзе трэба і не трэба, што ён — кіраўнік дзяржавы, ён — прэзідэнт, ён — гарант Канстытуцыі (сваёй), усенароднаабраны, надзея нацыі, абаронца простых людзей... Вось-вось пярэйме звычку апошняга расійскага імператара: "Мы, Аляксандр Чэсны...

"Я даў...". Са сваёй кішэні хіба? Са сваёй зарплаты? З уласнай ашчаднай кніжкі ці з асабістага рахунку ў швейцарскім банку? Мы ж, помніцца, абіралі прэзідэнта не нашымі грашыма распараджацца, не аднаасобна размяркоўваць бюджэт краіны, не кідаць направа-налева падачкі, не транжырыць казну. Гэта — дзяржаўныя, а значыць, нашы народныя грошы. Яны не з неба зваліліся, а накоплены намі і нашымі прадпрыемствамі, фірмамі, "камкамі", дзе мы працуем, а значыць, грошы вылічаны з нашых зарплат для дзяржаўных патрэб. І гэта не што іншае, як нашы падаткі. Дык ці можна аднаму чалавеку, няхай ён сабе і прэзідэнт, нават сусветнаабраны, заяўляць, што я вам даў, даю ці дам? Такія паўнамоцтвы можа даць толькі закон. А ні Канстытуцыя (няхай сабе і аўтарска-прэзідэнцкая), ні заканадаўчы орган краіны не даюць такога права прэзідэнту асабіста выконваць функцыі казначэя. Нават у прэзідэнцкім фондзе — другім бюджэце краіны — таксама нашы грошы. Ёсць Савет Міністраў, міністэрствы і ведамствы, у якіх ёсць адпаведныя і ўзгодненыя праграмы і законныя паўнамоцтвы вырашаць: даць ці не даць. Калі гэта чужыя для прэзідэнта грошы, то гэта яшчэ не азначае, што іх можна туды-сюды, як уздумаецца. Вядома ж, воўк — не пастух, а казёл — не агароднік...

Але ж народ маўчыць. Маўчыць таму, што так было заўсёды. Так нас прывучылі. Толькі лічыцца, што старшыня калгаса падпарадкоўваецца праўленню, старшыня сельсавета — дэпутатам, сакратар райкама — бюро, міністры — калегіі, суд — закону, раённыя і абласныя "губернатары" — прадстаўнічым органам. У апошні час выканаўчая ўлада падпарадкавала наогул заканадаўчую і судовую ўлады. А ўсё гэта разам належыць аднаму чалавеку — прэзідэнту. Усе, акрамя прэзідэнта, — іншыя. Гэта і вызначае для верхаводы паняцце "чэрнь" (у лепшым выпадку — "электарат"). І на думку некаторых патрыцыяў — выхадцаў з чэрні, гэтыя іншыя павінны быць задаволеныя тым, што маюць. Акрамя таго, яны павінны ўкараняць у сваім асяроддзі веру ў прэзідэнта і ягоныя штодзённыя абяцанні палепшыць іхняе жыццё.

Чамусьці часцей і часцей падкрэсліваецца, што менавіта прэзідэнт павінен нам палепшыць жыццё, а не мы самі. І праўда, хто бабе не ўнук? Пэўне, думаюць наверсе, што калі даць магчымасць чэрні (электарату) паляпшаць самім сваё жыццё, то яны могуць, калі разбяруцца што тут да чаго, замахнуцца і на жыццё тых, хто так здзекуецца над бедным людам. Страх адольвае і выхадцаў з чэрні, якіх выпадак вынес на самы верх. Таму яны і ўбіваюць у галовы чэрні, што менавіта прэзідэнт павінен паклапаціцца пра ўзровень жыцця сваіх падданых, а не нейкія там прафсаюзы, грамадскія арганізацыі і партыі, што баламуцяць чэрнь на мітынгах і дэманстрацыях. Падкрэсліваючы між іншым: хочаш ці не хочаш, а нявестка ўсё роўна свякрухай стане. І выходзіць, што няма сёння ніякай іншай сілы, акрамя апазіцыі, якая б супрацьстаяла гэтай ганебнай у цывілізаваным разуменні з'яве. Праўда, сярод электарату ў апошні час з'явілася шмат незадаволеных, нават сярод тых, хто некалі гарой стаяў за прэзідэнта і абедзьвюма рукамі галасаваў за прэзідэнцкія ідэі на рэферэндумах. Але, на жаль, гэтыя сілы пакуль што разрозненыя, стыхійныя, не згуртаваныя ў адну сілу незадавальнення палітыкай прэзідэнта і ўрада. Яны яшчэ не маюць аб'ектыўнай інфармацыі пра дзеянні ўрада і самога прэзідэнта, а таму і не ўдаецца пакуль што сабраць гэтыя галасы ў адзіны магутны голас большасці народа і цвёрда сказаць такой авантурнай і бязграматнай палітыцы прэзідэнта і ягонага атачэння сваё рашучае "не!". Пэўне, той-сёй сярод набліжанай да прэзідэнта чэрні цешыцца тым, што быццам бы лысая галава не сівее. Але, як некалі любіў гаварыць вядомы расійскі "перабудоўшчык", "працэс пайшоў". Бурбалкі на эканамічнай вадзе і мыльныя пухіры ў прэзідэнцкіх вадзяністых прамовах лопаюцца на нашых вачах. Усе, хто паспеў працерці вочы, зразумелі: куры да індыкоў не належаць, а авантурная палітыка прэзідэнта, хоць новай і называецца, але ўсё ж альховая па сваім змесце. Адным словам, пачварныя, старыя формы нашай эканомікі не змогуць упрыгожыць ніякія шыкоўныя пеньюары і нават парфума лепшых парыжскіх фірмаў! Як ні круці, а пад крывымі нагамі заўсёды абцасы крывяцца.

### Ці не надакучыла нам усё гэта?

Каго ж мы абралі, каму даверылі краіну, наш лёс? Што ж сталася з уладай, якая, быццам заяц у цырку, стаіць, як загіпназаваная, на задніх лапках перад прэзідэнтам, глядзіць яму ў рот і паўтарае, як малітву, укараняе ў жыццё ўсё, што прыйдзе ў галаву кіраўніку дзяржавы? А так званы парламент? Такое аднадушша можа быць толькі ў вымуштраваных ротах аракчэеўскага палка.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## "Народную волю" можно выписать дома, лежа на диване

Действительно, уважаемые друзья, Вы можете подписаться на "Народную волю", лежа на диване, а также на работе, в дороге — где Вам удобно. Именно для этого мы и печатаем сегодня абонементную карточку. После заполнения вырежьте и в любое удобное для Вас время забросьте в ближайшее почтовое отделение или в подписной пункт "Белсоюзпечати".

Напоминаем: индекс "Народной воли" — 63222. Стоимость подписки: на месяц — 100 тыс. рублей, на квартал — 300, на полугодие — 600 тыс. рублей. В связи с чем выросла цена — объяснять, думаем, не стоит. Государство независимой газете дотаций не выделяет, затраты растут с каждым днем.

И все же надеемся, что дружба наша не прервется.

**Вы — с "Народной волей", "Народная воля" — с Вами!**

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на газету** 6 3 2 2 2 (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў

на 1999 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету** 6 3 2 2 2 (індэкс выдання)

Народная Воля

| Кошт | падпіскі | ______ руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______ руб. | | |

на 1999 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

# По величине средних зарплат и пенсий Беларусь находится в числе самых нищих стран Европы. Печально и стыдно, товарищи правители!

**Стоп-кадр**



*"Падайце, Хрыстом богам молім..." Што можа быць страшней — бачыць безнадзейнасць у вачах беспрытульнага дзіцяці побач з такой жа бездапаможнай, знясіленай маці-жабрачкай? Што можа быць цяжэй за абвінавачанне дзяржаве, дзе мноства грамадзян пазбаўлены "гарантаванага" канстытуцыйнага права на чалавечае жыццё, сацыяльную падтрымку, бясплатнае лячэнне? І чаго варта траскатня з высокіх трыбун і прэзідэнцкіх рупараў аб тым, што маўляў, "працвітанню" і "дабрабыту" народа Беларусі зайздросцяць у Расіі і іншых краінах СНД?*

*Варта толькі паглядзець на гэты здымак, зроблены ў лістападзе 1998 года (а такіх здымкаў, на жаль, у адзін дзень можна зрабіць сотні), каб зразумець усю хлусліваць афіцыйнай прапаганды і сапраўдную антынародную сутнасць палітыкі сённяшніх улад нашай краіны.*

### УКАЗ Президента Республики Беларусь №550

### О награждении Л.К.Шабловской медалью Франциска Скорины

За многолетний плодотворный труд по распространению изданий периодической печати наградить директора Минского городского оптово-розничного предприятия "Белсоюзпечать" Шабловскую Ларису Кузьминичну медалью Франциска Скорины.

**Президент Республики Беларусь А.Лукашенко.**

**16 ноября 1998 г. г.Минск.**

## Иномарка столкнулась с автобусом

Как уже сообщало Белорусское телеграфное агентство, на автомагистрали Гродно — Минск вблизи деревни Крупли Ивьевского района произошла автомобильная катастрофа, которая повлекла человеческие жертвы. Корреспондент БелТА по Гродненской области Константин Болотевич сообщает подробности этой жуткой трагедии.

В результате столкновения автомобиля "Фольксваген" и автобуса "Неоплан" на месте происшествия погибли три человека и двое получили травмы. Смерть настигла ехавших в иномарке близких родственников. По данным Гродненской областной автоинспекции, авария произошла из-за того, что водитель автомобиля, не справившись с управлением, выехал на полосу встречного движения и врезался в автобус, в котором следовали 18 туристов из Литвы. После столкновения обе автомашины оказались в кювете, причем автобус во время падения придавил иномарку.

Только на Гродненщине с начала ноября в сорока дорожно-транспортных происшествиях погибли 9 человек и 37 получили телесные повреждения. А в минувшем месяце на дорогах области погибли 27 человек и 115 получили ранения.

## Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацый прыняла заяву з заклікам адстаяць незалежнасць Беларусі

Заява пад лозунгам "Адстаім незалежнасць Беларусі!" прынята на 2-й Нацыянальнай асамблеі няўрадавых арганізацый Беларусі, якая прайшла ў Мінску 14 лістапада.

"Мы, паўнамоцныя прадстаўнікі грамадскіх ініцыятыў краіны, — гаворыцца ў заяве, — лічым незалежнасць Беларусі неабходнай перадумовай і гарантыяй захавання грамадзянскай супольнасці і адраджэння дэмакратыі на нашай зямлі". На думку ўдзельнікаў асамблеі, цяперашняя ўлада краіны вырасла на былой "камуністычнай каланіяльнай сістэме, якая захавалася ў Беларусі ў поўным аб'ёме", а імкненне прэзідэнцкай адміністрацыі да так званай інтэграцыі з Расіяй на практыцы азначае "гатоўнасць знішчыць суверэнітэт нашай краіны".

"Дзеля абароны незалежнасці краіны, — гаворыцца ў заяве, — будзе выкарыстаны магутны аб'яднаны інфармацыйны і структурны патэнцыял беларускіх дэмакратычных арганізацый". Удзельнікі асамблеі прынялі таксама рэзалюцыю аб адпоры фашызму ў Беларусі, у тым ліку і "прапагандзе вялікадзяржаўнай расійскай ідэалогіі". У ёй змяшчаюцца заклікі "да ўсіх сумленных асоб і арганізацый" патрабаваць ад улад забароны фашысцкіх арганізацый і судовага пераследу іх кіраўнікоў, а таксама праводзіць маніторынг акцый і праяўленняў "фашызацыі грамадства" і "аператыўна перадаваць адпаведную інфармацыю" ў рабочую групу Нацыянальнай асамблеі.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ, БелаПАН.**

## Зянон Пазьняк — аб дыфамацыі генерала Чаргінца

Зянон Пазьняк, старшыня Беларускага народнага фронту "Адраджэньне", перадаў з Нью-Йорка заяву, якая называецца "Аб дыфамацыі". У ёй гаворыцца:

"У пачатку лістапада гэтага года кіраўнік камісіі па міжнародных справах нелегітымнага парламента цяперашняй Беларусі генерал Чаргінец выступіў з чарговай спробай дыфамацыі ў мой адрас, заявіўшы аб тым, што ўлады Лукашэнкі "прадставілі" намесніку старшыні Парламенцкай Асамблеі Рады Еўропы спадару Р.Антрэтару "тэксты шматлікіх выступаў З.Пазьняка", дзе, на іх думку, "выстаўляліся тэрытарыяльныя прэтэнзіі да сумежных дзяржаў і сеялася міжнацыянальная рознь". ("Белорусская газета").

Ужо дзесяць гадоў, пачынаючы ад адкрыцця Курапатаў у 1998 годзе (месца камуністычных расстрэлаў нявінных людзей) і ад пачатку стварэння Беларускага народнага фронту, які паставіў крыж на камунізме ў Беларусі, я падвяргаюся шалёным нападкам з боку тагачаснай і цяперашняй наменклатуры. "Міжнацыянальная рознь" і "тэрытарыяльныя прэтэнзіі" — гэта яшчэ самае мяккае, што прыдумалі пра мяне прадстаўнікі былой ідэалогіі і арганізацыі КПСС, якая праводзіла тэрор, генацыд, знішчыла мільёны людзей і распачала разам з гітлераўцамі другую сусветную вайну за перадзел свету.

Я змагаўся, змагаюся і буду змагацца супраць гэтай антылюдскай ідэалогіі, злачыннай партыі і яе цяперашніх дзеючых і мімікрыруючых кіраўнікоў..."

Аўтар заявы лічыць, што сучасны рэжым на Беларусі — гэта ёсць рэжым камуністычнага савецкага рэваншызму, арганізуючай сілай якога з'яўляецца савецкае КДБ. Ён звяртае ўвагу на тое, што палітыка арганізацыі і пазіцыя асобы вызначаюцца не па фразах, тэндэнцыйна выхапленых з кантэксту, а самім кантэкстам, па змесце і выніках дзейнасці.

У Беларусі, падкрэслівае З.Пазьняк, правы чалавека паламаныя, беларускія школы зачыняюцца, а сярэдняя зарплата знізілася да 15—20 долараў у месяц і многія людзі, што выбралі і прадаўжаюць любіць прэзідэнта, здаюць сваю кроў, каб паесці. Вось аблічча сённяшняга рэжыму на Беларусі.

"Усё гэта не замінае міністрам і генералам рэжыму цынічна аб'яўляць цяперашнюю Беларусь узорам дэмакратыі, а эканамічны спад — эканамічным уздымам.

Прырода гэткай з'явы, як і прычыны дыфамацыі супраць мяне, — вядомыя. І я, і Народны фронт заўсёды стаялі і стаім на абароне правоў чалавека, свабоды і дэмакратыі, незалежнасці Беларусі, парламентарызму і законнасці. Мы стаім за еўрапейскі шлях развіцця і не прымаем рэваншысцкую палітыку рускага імперыялізму. Мы прытрымліваемся Хельсінкскіх пагадненняў у дачыненні паміж людзьмі, краінамі і народамі. Але галоўнае тое, што мы засведчылі і сведчым гэта ў сваёй палітычнай дзейнасці і сваім палітычным змаганні.

Метады маіх палітычных антаганістаў — непрымальныя ў цывілізаванай палітыцы. Усяму ёсць мяжа. Вядома, людзям, што зрабілі пераварот, рот не закрыеш". Але за дыфамацыю (і не толькі за дыфамацыю), лічыць З.Пазьняк, ім прыйдзецца адказваць перад аднаўленым у правах беларускім судом.

**Взгляд**

Михаил ПОДОЛЯК

## Затянуть пояса! Из строя не выходить! Лишнего не болтать...

Наконец-то А.Лукашенко самолично признал наличие в стране жесточайшего социально-экономического кризиса. По его мнению, даже несмотря на жесткие административные меры, товары исчезают, деньги обесцениваются, жизненный уровень стремительно падает. По сути, нынешнее состояние белорусской экономики — это самый объективный критерий "успешной" работы президента.

Да, он справился с внутренней оппозицией. Он сумел явить миру агрессивную идею славянского межгосударственного единства. Он даже убедил "Газпром" не замораживать нас живьем этой зимой. Но оказалось, что настоящее откровение ждет его в своей собственной стране — сумеет ли "отец республики" Александр Григорьевич уберечь свое "дитя" от голода и поголовной нищеты. Не это ли плата за его навязчивое желание вернуть нас в социализм?

Впрочем, действительно глупо не признавать очевидное. В стране свирепствует кризис управления и кризис потребления. Известное перефразированное выражение "верхи не хотят управлять по-новому, а низы не могут больше потреблять по старым карточным нормам" находит все больше подтверждений в нашей жизни. Правда, кое-кто считает белорусский кризис своеобразным отголоском общемирового системного кризиса. Увы, это далеко не так. Причиной нашей катастрофы являются не финансовые спекуляции, инвестиционный "перегрев" экономики или спекулятивные атаки крупных биржевых игроков на национальные валюты. Природа белорусского падения совершенно иная, и лежит она, скорее, в области политики и психологии высшего руководства...

Столь масштабный социально-экономический кризис во многих странах неминуемо приводит к незамедлительной и позорной отставке всего правительственного кабинета. Мне кажется, разумно было ожидать такого шага от премьер-министра Сергея Линга. В таком случае вину за провал нынешней экономической политики понес бы только Кабинет Министров. Ну, может быть, еще глава Национального банка Петр Прокопович. Президент же получил бы очередной шанс задействовать несколько иную команду и политику в социально-экономической сфере. Скажем, отказаться от социалистических методик управления экономикой в пользу более либеральных и монетарных. Конечно, подобное экспериментирование не принесло бы молниеносных положительных результатов. Но, по крайней мере, Лукашенко опробовал бы несколько вариантов управления экономикой. Впрочем, о чем это я. Александр Григорьевич, судя по всему, не знает больше никаких методик, кроме прямого приказа и государственного диктата, а Линг, Прокопович и иже с ним просто слишком плохие советчики. Да только заменить их можно разве что такими же горе-экономистами.

Понятно, что с момента начала кризиса (впрочем, сегодня мы наблюдаем уже не начало, а кульминацию управленческих просчетов нынешней президентской команды) все шаги, которые предпринимал А.Г., так или иначе относятся к разряду директивных. Именно исходя из подобной целесообразности был создан республиканский штаб во главе с верноподданным любых режимов Михаилом Мясниковичем, который должен ответить на два важнейших вопроса: почему из магазинов стремительно исчезают продукты и что происходит с национальной валютой Беларуси. Премьер, управделами, ряд вице-премьеров и один приближенный тут же оказались прикрепленными к регионам с намерением контролировать и протоколировать любые торгово-финансовые нарушения. Замечу, что настоящий рынок сам реально определяет, сколько чего надо производить, чтобы полностью обеспечить потребительский спрос. При административно-командном методе управления ассортимент и количество продукции зависит от прихоти конкретного чиновника, недостатка информации и размера государственных дотаций. Интересы потребителя отодвигаются на второй план. Очевидно, что высокопоставленные чиновники, закрепленные за регионами, вряд ли определят истинную причину продовольственных дефицитов, зато они могут написать неплохой отчет.

Второе, что сделал Лукашенко, почувствовав угрозу голодных бунтов и рост протестных настроений, это в спешном порядке принялся укреплять во власти присутствие своего родного могилевского клана. Так, одним из вице-премьеров был назначен 50-летний Александр Попков, бывший председатель Шкловского райисполкома, бывший первый секретарь горкома КПБ, бывший гендиректор торгового предприятия "Шкловское". Подобное кадровое усиление происходит всегда накануне серьезных потрясений. Думается, президент образует своеобразную круговую оборону — он вынужден убирать из высших эшелонов сомнительных и подозрительных в пользу старой гвардии.

Что ж, Александру Григорьевичу и его пастве остался, на мой взгляд, один путь, и пройти его он и мы должны сполна. Путь этот сопряжен с унижением и обнищанием собственного народа. Путь повторного банкротства социалистической идеи в русском (белорусском) исполнении. А чтобы страдания были настоящими, президенту надо предпринять еще ряд директивных шагов. Во-первых, законодательно ввести строгие нормы продовольственного потребления. Это позволит избежать информационной и пропагандистской истерии, обеспечить все взрослое население республики одинаковым минимальным прожиточным пайком, пресечь любые спекуляции. Во-вторых, категорически запретить частный и акционерный бизнес, в том числе запретить государственным предприятиям напрямую торговать собственными товарами. В таком случае постепенно удастся унифицировать уровень жизни подавляющего большинства населения, а резкое имущественное расслоение канет в Лету. В-третьих, не исключено введение прямого президентского правления (понятно, что через институт специальных уполномоченных лиц) на всех крупных предприятиях. Особенно в экспортных отраслях. Кое-кто думает, что такой шаг позволит избежать финансовых хищений и разбазаривания народных денег. В-четвертых, а не приостановить ли на неопределенное время деятельность всех профсоюзных организаций, в том числе и официальных? Чтобы не волновать понапрасну рабочий люд. В-пятых, распределить население республики по так называемым "потребительским категориям" в целях оптимального обеспечения продуктами первой необходимости. В-шестых, седьмых и т.д. Список можно продолжать до бесконечности. Важно уяснить наконец, готов ли сам Лукашенко возглавить правительство, а страну превратить, скажем, в абсолютно замкнутый и находящийся исключительно на самообеспечении трудовой лагерь. Ведь пока у власти Лукашенко, республика, мне кажется, не вправе надеяться на рост торговых товарооборотов с зарубежными партнерами, расширение притока иностранных инвестиций, оживление производства, реструктуризацию и технологическое переоснащение промышленности.

Ну а если все эти меры действительно принесут пользу? Тогда, быть может, мы станем любить А.Г. так же, как любят своего Фиделя нищие, но гордые кубинцы. Для этого от нас требуется сущий пустяк — забыть о цивилизации и вернуться к пустым прилавкам, серым робам и пожизненному безмолвию. Готовы ли мы к этому?

**Надвор'е**

18 і 19 лістапада на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае, з праясненнямі надвор'е; у паўднёвых і паўднёва-ўсходніх раёнах — снег, слабая мяцеліца. Вецер паўночна-ўсходні, 6-11 м/с. Тэмпература паветра ўначы -11...-16, пры праясненнях да -21; удзень — -5...-10.

# Страх і дыктатура чэрні

## Ці будуць калі-небудзь беларусы людзьмі звацца?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Вось ты губляешся ў здагадках: а хто можа наладзіць наша жыццё, акрамя Лукашэнкі? Скажу табе прама — можаш спачатку не пагадзіцца, успрымеш недаверліва. А таму я табе, браток, параю шчыра адно: калі яшчэ не развучыўся, больш старайся чытаць і слухаць. І не толькі беларускія дзяржаўныя газеты, радыё, тэлебачанне. Ёсць жа газеты, што пішуць праўду, не бойся іх выпісваць. Калі-нікалі пераключыся і на расійскія тэлеканалы. Там, бывае, праскоквае тое-сёе праўдзівае пра нашу Беларусь. Праўда, апошнім часам нават НТБ прыхарошвае інфармацыю з нашых краёў. Пэўне, ёсць дамоўленасць не варушыць асінае гняздо... Пашукай адказы на свае пытанні і ў гутарках з талковымі і адукаванымі людзьмі. Не спадзявайся на тое, што сам усё ведаеш. Сам жа заўважыў, што цяпер з кім ні загавары, нават з дзедам, які некалі скончыў толькі два класы царкоўнапрыходскай школы, то ён, аказваецца, ведае больш за палітолага, палітыка, эканаміста. Праўда, гэта ідзе не ад ведаў, адукаванасці, а ад пачуцця гонару прыналежнасці да класа гегемонаў. У генах, пэўна, у нас існуе нейкая варожасць і недаверлівасць да адукаваных інтэлігентных людзей. А ты не грэбуй, пагавары з разумнымі людзьмі, не старайся ўспрымаць іх як ворагаў народа. Ты пастарайся паглядзець, як той казаў, у корань. І тады з цягам часу перад табой адкрыецца ісціна, раскрыюцца вочы, станеш ты больш удумлівым і ўжо не стане да цябе гэтак прыліпаць хлусня, розныя дзяржаўныя казкі пра наша сацыялістычнае шчасце, пра апазіцыю як сілу, якая толькі і думае, як цябе найбольш выгадна прадаць Захаду...

Я здагадваюся, што цябе нене, ды й свідруе думка: а што ты можаш зрабіць, бо ты — мелкая сошка, ты — адзін, як палец. А ці адзін ты такі, хто хоча дапамагчы і сам сабе, і свайму краю, каб вырвацца з прорвы такога апастылага жыцця? Не, ты не адзін. Нас шмат! І твой голас, няхай сабе і ў кабіне для тайнага галасавання, ой як многа значыць! У час выбараў, павер мне на слова, кожны голас — на вагу золата! Заўваж: мусіць, не проста так палітыкі падчас выбараў лашчаць наш слых абяцаннямі, пераапранаюцца ў гэткія авечыя скуры, такія ўсе ласкавыя і ўважлівыя, такія даступныя і свойскія, што хоць да раны іх прыкладвай.

Вось ты мяркуеш, што раней жылося лепш. І зарплаты хапала, і на пенсію можна было пражыць, і парадку было больш, і можна было паехаць да сваякоў хоць на Далёкі Усход; летам, хоць і дзікуном, але можна было паляжаць і пагрэцца на беразе Чорнага мора. Згодны з табой. Мне таксама пра гэта нярэдка думаецца. Але ж, як бы мы ўсе не гарачыліся, як бы не падбухторвалі ўсіх нас гэтыя "інтэгратары" і розныя "патрыёты", каб вярнуць мінулае, павер мне, што мы ніколі не вернемся туды, як і не вернемся ў сваю маладосць. А наконт уз'яднання, аднаўлення і вяртання назад, на маю думку, тут трэба задумацца вось над чым: а каму і для чаго гэта трэба? Думаеш, гэтыя занадта "клапатлівыя" людзі думаюць пра нас з табой? Ты ж паглядзі на тых, хто сёння пры ўладзе. Што, яны перш-наперш пра нас турбуюцца? Правільна, у першую чаргу — пра сябе. У іх, браток, адно вока таўчэ, другое меле. Калі, крый Божа, гэтая палітычная гульня ўдасца, то ты нават не можаш сабе ўявіць, колькі мы згубім часу на тое аднаўленне старога, па якім мы часам сумуем, і ў рэшце-рэшт так адстанем ад перадавога свету, што ні нашы дзеці, ні нашы ўнукі і нават праўнукі не дагоняць таго, што мы сёння сваёй упартасцю і недасведчанасцю здолеем затрымаць. Так што, браток, не падай так — каленкі паб'еш.

Варта, думаю, ісці наперад і нам, і асабліва нашым дзецям. Можа, нам ужо і пазнавата перавучвацца, а вось маладым трэба вучыцца жыць і ладкаваць сваю жытку па-новаму. А вучыцца ёсць у каго. Глянь, як жывуць людзі на свеце. Не корпаюцца так, як мы, працалюбівыя людзі, у сметніках, не дрыжаць над кожным кавалкам хлеба, над кожнай капейчынай, а вандруюць на старасці гадоў, ездзяць у цёплыя месцы пагрэць старыя косці. І не буржуі там нейкія, а такія, як мы з табой. Проста там раней за нас зразумелі, што дзяржава павінна існаваць для людзей, а не наадварот. Сакрэт, я табе скажу, просты. Трэба, каб улада стварыла неабходныя ўмовы не для сябе, як зараз, а для таго, каб чалавек мог свабодна працаваць на самога сябе, а за гэтую ласку плаціць дзяржаве падаткі. Нармальныя падаткі, а не такія грабежніцкія, як у нас. У нас замест гэтага — адны лозунгі, адны абяцанні. І задумайся яшчэ вось над чым: а чаму дзяржава, улада, прэзідэнт не хочуць даць нам з табой, нашым дзецям такой магчымасці? Пэўне, я так думаю, уладзе гэта нявыгадна. А яно ж заўсёды бывае так, ці прыкмеціў, калі дзяржаве не выгадна, то чалавеку — да дабра. Яно, браток, так заўсёды ў нас бывае. Што ні кажы: сава спіць, а курэй бачыць.

Ты, пэўна, верыш тым палітыкам, якія імкнуцца нас парадніць і аб'яднаць з Расіяй. Можа, пры гэтым і сэрца памяццю аб былым зашчыміць, і скупая сляза на твар спаўзе. Гэта — настальгія. Яна, асабліва ў сталыя гады, нярэдка збівае нас з панталыку. Ну, падумай, што адбудзецца, калі аб'яднаюцца адны бедныя ў кучу. Некалі ж такое было, памятаеш? Камунай называлася. Хоць яна і ленінская тая ідэя была, але, пагадзіся, на праверку аказалася так, абы што. А ці падтрымаеш ты маю такую думку? Давай спачатку займемся не аб'яднаннем, а развіццём сваёй уласнай краіны. Спакойна, удумліва, без спаборніцтва і ўдарнага фронту. Скіруем усю нашу ўвагу на тое, каб самім наладзіць сваю жытку, без камуністаў, бальшавікоў, іншых памагатых, у каго адна прыкмета: яны нідзе месца не сагрэюць. Трэба мець галаву на плячах, каб распазнаць, хто на пана не хварэе, хто душой і ўменнем стараецца свайму народу дабра дадаць. Вось так, як атрымалася ў нашых суседзяў у Польшчы, Літве, Латвіі.

Глянь ты! Стартавыя ўмовы ў іх былі нават горшыя, чым у нас, а дзе яны зараз апынуліся? І нам бы так. Ат, не. У нашых перамаглі бальшавіцкія замашкі, сацыялістычная арыентацыя: назад, у камуністычнае мінулае! Даверыліся мы падслепаватым павадырам з партыйнымі білетамі ў кішэнях, у якіх аднаго і багажу, што ўменне хадзіць сваімі, адным ім вядомымі шляхамі. А здаецца, ці цяжка было б даць чалавеку самому вызначаць, як яму ісці. Што, кажаш, разбрыліся хто куды? Вось бачыш, і ты любіш, каб строем, гуртам. Не дзіва, што, кажуць, цыган за кампанію павесіўся. Я так думаю: каб дзяржава, улада і прэзідэнт стварылі спрыяльныя ўмовы для свабоднага развіцця магчымасцяў усім сваім грамадзянам ды трошкі падсобілі ім крылы распрастаць, пазбавіцца ад рабства, ленасці розуму, далі б ім у ахвотку парабіць самім на сябе, то, хто ведае, можа б, і суседзі нашы цяпер у нас ззаду пляліся б. А так прывадныя рамяні нас прывязалі да волі аднаго чалавека, які зганяе нас у гурт і прымушае ісці строем туды, куды і сам не ведае. Вось ты, калі выпадзе вольная хвіліна, падумай над гэтым. Сядзь за стол, на ложак, ці на прыпечку, абхваці галаву рукамі і пастарайся пра ўсё гэта задумацца...

Вось ты, пэўне, мяркуеш, што калі аб'яднаемся з Расіяй, то будзе ў нас, як некалі, паліва, налівай — не хачу, металу навалам, электраэнергіі па чатыры капейкі за кілават; заказы на заводы гарохам пасыплюцца, тэхніку новую ў прамысловасць і ў сельскую гаспадарку падкінуць... Браток ты мой, цяпер, ці чуў ты, за ўсё трэба плаціць, і ў большасці выпадкаў — па міжнародных цэнах, а то і даражэй! У той жа Расіі расіяне даўно так жывуць. На дармаўшчынку, толькі за адно наша жаданне аб'яднацца ніхто нічога нам не дасць. Тут, браток, такая палітыка. Гульня такая палітычная. Расіі выгадна мець геастратэгічны калідор ў Еўропу менавіта праз Беларусь. Раз. Праз Беларусь ідуць расійскія газ, нафта, энергія на Захад. Аб'яднаўшыся з Беларуссю і ўключыўшы яе ў склад сваёй імперыі, у Расіі не будзе балець галава аб тым, што раптам у Беларусі выберуць якога-небудзь самастойнага і талковага прэзідэнта і ён пачне ладзіць стасункі з ёй на роўных. Гэта азначае, што Расія павінна будзе таксама плаціць, як і мы, за ўсё, чым карыстаецца на беларускай зямлі. А гэта, браток ты мой, ого, якія вялікія грошы! Два. Нашы кіраўнікі падбухторваюць зараз беларусаў на гэтую інтэграцыю. А ведаеш, чаму? А таму, што дужа ж хочацца пагуляць у палітычныя гульні на аб'яднаным беларускарускім полі. Ты што, і сапраўды думаеш, што нашаму прэзідэнту, які правяліў справу тут, у Беларусі, не хочацца паруліць з самога Крамля? Казаў, што не мае такога намеру? Не вер, браток! Гэта таксама гульня. Да пары да часу, як згаварыўшыся, усе яны будуць прыкідвацца такімі ціхенькімі, ласкавымі і сціплымі цяляткамі, а праб'е час — і аж узмыляцца ў гэтай прадвыбарнай гонцы. А мы ў гэтай гульні будзем толькі пешкамі. Ці ж хочацца табе ўсё жыццё пешкай выстаўляцца? Вось табе і тры. Гэта — з большага. А так у гэтай гульні выйграюць не фігуры на палітычнай дошцы, а ігракі. Мы з табой, заўваж, сядзім не ў крэсле, а на дошцы стаім. І выходзіць, што не для пса каўбаса, не для ката сала. Так што, браток, на дошцы ты ці не, а думаць усё роўна трэба. Ты, пэўне, трохі развучыўся думаць, разленаваўся. Ці не праўда? Прывучылі ж нас сваім розумам не жыць. Вось і цяпер вучаць нас жыць розумам прэзідэнта. Чаму? А таму, што так намі лягчэй кіраваць. Каб надта не выбрыквалі, каб нам не хацелася на мітынгі, дэманстрацыі, не хацелася пярэчыць, даказваць або мець сваю думку. Такія разумнікі толькі будуць ствараць кіруючай чэрні лішнія клопаты. Ды і калі паства будзе адукаваная, то стане зразумелым, што некаторыя настаўнікі — з пачатковай адукацыяй. Трэба, браток, адвыкаць ад статку, бо не думаўшы або даверыўшыся на слова якому-небудзь дамарошчанаму важаку, можна такое змарозіць, што і сам сабе біды наробіш ды яшчэ дзецям і ўнукам ладную свінню падкладзеш. І характар свой дужа не праяўляй, занадта, па-камуністычнаму не натурвайся. Прыслухоўвайся да таго, што пра тое ці іншае маладзейшыя думаюць. Яны, браток, сёння значна больш ведаюць за нас. Яны ўжо разабраліся, што да чаго. Ужо мала хто спадзяецца на абяцанкі-цацанкі. Сам ведаеш, што дурная гэтая справа — з чужой рукі браць. Ім мы павінны толькі трошкі дапамагаць мудрасцю сваёй, накшталт той, што толькі праца, сумленне ды спадзеўка на сябе могуць прынесці добры плён. Ды і падказаць варта, калі яны ўжо выйшлі торыць свой шлях, няхай, як кажуць, на паляванні лісіцы ў хвост не цэляцца.

Так што, калі давядзецца галасаваць рукой ці ў кабіне, то не выбягай наперад бацькі. Не спяшайся дагадзіць начальству. Ты перш-наперш не для начальства будзеш галасаваць, а для сябе і сваіх блізкіх. Ты, я так думаю, пасля доўгіх роздумаў прыйдзеш да думкі, што сваім голасам мосціш дарогу дзецям і ўнукам у іх будучае жыццё. Не думаю, што табе хочацца выбраць ім той шлях, які прывёў цябе да такога жабрацкага жыцця. А не так, як некалі выбіралі прэзідэнта. У пачатку артыкула я, праўда, памылкова агаварыўся, быццам бы прэзідэнта абрала амаль 82 працэнты насельніцтва. Удакладняю: галасавала толькі 70 працэнтаў выбаршчыкаў, а за прэзідэнта — толькі 57 працэнтаў з ліку тых, хто меў права голасу, а 82 працэнты — гэта лічба ад той колькасці насельніцтва, якое прыйшло на выбарчыя ўчасткі. Так што варта перад галасаваннем моцна паламаць галаву. Я сам ужо пераканаўся: няхай на гэты раз яны ідуць не сваёй сцежкай, а тым бальшаком, дзе даўным-даўно людзі ходзяць. А ты як думаеш?

А таму, як мы зараз жывём, ніхто з разумных людзей ніколі зайздросціць не стане. Толькі спачуваць будуць. Чаму тут зайздросціць? Таму, што ўсё жыццё ў статку правялі, што толькі і слухалі падказкі, як нам жыць, з кім сябраваць, што трэба мець, а што не? Гэта ж тое самае, што крок налева — крок направа... І думаюць пра нас ў свеце, што мы або дурныя, або зусім лянівыя, або занадта ўжо талерантныя. А можа, і здагадваюцца пра самае галоўнае: мы такім чынам ператварыліся ў чэрнь, набылі ўсе яе ўласцівасці. Вось да чаго мы, браток, дажылі. Будзем і надалей вось гэтак маўкліва назіраць, як нашы кіраўнікі марнуюць нашу Айчыну, бухаюць нашы грошыкі куды левая нага захоча, маўчаць і ціхенька здзіўляцца, што вярхушка круціць "яшкавы самакруткі", ціснуцца ў статку і адно аднаму наступаць на пяты ў гэтым гурце, і можа здарыцца з намі вельмі страшная бяда: адвернуцца ад нас і Бог, і людзі. Бог, пэўне, і так ужо карае нас за тое, што мы лянуемся думаць сваёй галавой, на саміх сябе спадзявацца. Усё ці на прэзідэнта спадзяёмся, ці на начальства, ці на выпадак або нацэльваемся на чужое, каб адабраць і падзяліць...

Мы з табой, браток, колькі памятаем сябе, усё выступалі ў ролі дыктатуры пралетарыяту. Выходзіць, што мы і самі дыктатары? Заўваж: не тыя, хто падбухторваў нас на гэта, а мы! Дыктатарамі былі і ў рабочым асяроддзі, і на сялянскіх падворках, і інтэлігенцкаму асяроддзю праз сваіх людзей дыктавалі, што нам трэба і што нам хочацца. Ці не адтуль у нас усіх такая спагадлівасць да дыктатуры, да дыктатараў?!

А на самай справе дыктатарамі былі тыя, хто нас падбухторваў. Намі толькі прыкрываліся. Мы былі тымі сляпымі выканаўцамі, на каго можна было спісаць усе жахі дыктатуры: маўляў, так хацеў народ, г.зн. чэрнь. Заўваж: і сёння ў шпаркай хадзе гэтая звычка нашых павадыроў.

Ты не крыўдуй, што я часам і цябе, а заадно і сябе называю чэрню. Народ — гэта калі гучыць горда. А ці маем мы права пасля таго, што самі натварылі, асабліва пасля таго, што з намі натварылі па нашай маўклівай згодзе, называць сябе такім высокім імем? Мы павінны яшчэ аднавіць у саміх сябе гэтае паважнае ва ўсім свеце паняцце. І я мяркую: хоць гэта і сумна, і балюча, і нават абразліва гучыць, а што зробіш? З песні, як кажуць, слова не выкінеш. Праўда ніколі салодкай не была...

А ўлада — гэта тыя, хто наверсе, хто едзе на нас ды яшчэ і паганяе. А каб небяспечна было ездзіць на нас ды яшчэ паганяць, не баючыся, што можам часам і вельмі адчувальна лягнуць, трэба, каб мы баяліся. Можа, скажаш, што ты не баішся? Баішся... А твае блізкія, саслужыўцы, знаёмыя? Таксама баяцца. І мае — не лепшыя. А ці чуў ты, каб людзей, якія баяцца, народам велічалі? Не. Язык не паварочваецца...

Яшчэ я табе скажу так. Праўда, гэта не дужа якое палягчэнне, але ўлада баіцца і нас. Не вырыш? Думаю, што міліцыі ў нас, органаў КДБ, унутраных войскаў, начальнікаў розных — прывадных рамянёў, лічы, на кожнага — па адным. Гэта для таго, каб ты ці я адчувалі сябе свабодна? Ого, чаго захацеў! Гэта для таго, каб ты адчуваў, што кожную хвіліну за табой сочаць, цікуюць. Каб, як і раней, не зрабіў тое, што ўладзе нявыгадна. І не тое, што ў табе бачаць які-небудзь крымінальны элемент. Не, крымінальнікі, карупцыянеры, розныя іншыя злачынцы, мафія ўсялякая, — яны не так небяспечныя для ўлады, як мы з табой. Мы можам у адпаведных умовах аказацца больш небяспечнымі для вярхоў, чым тая ж мафія. Мы можам аказацца палітычнымі праціўнікамі існуючага рэжыму. Тады можа захістацца трон, у цёплых месцах загуляюць скразнякі. Такія, як мы, могуць раскрыць сапраўдны твар улады і яе прыслужнікаў... Стане няўтульна, дрыжыкі прабяруць тых, хто дурыў нас увесь гэты час, і тых, хто дапамагаў ім дурыць, хто пусціў нас з торбай па свеце, а самі, як кажуць, па свеце паадкрывалі шмат банкаўскіх рахункаў і набудавалі не куратнікаў за Лагойскам і ля Пухавіч, а катэджаў на ўскрайку Мінскага мора і ў пальмавых гаях у цёплым далёкім замежжы.

Баяцца яны нашых мітынгаў, дэманстрацый і забастовак, бо сваімі патрабаваннямі мы прымушаем іх працаваць як след да апоўначы, а не парыцца-весяліцца ў саунах да самага рання. Нарэшце, прымушаем іх працаваць галавой, а не языком.

Баяцца яны і нашай свабоды, бо свабодны чалавек — не раб і на ім не пакатаешся. Баяцца свабоднай прэсы, баяцца дапусціць да тэле- і радыёстудый сваіх апанентаў, баяцца канкурэнцыі з разумнымі і талковымі людзьмі. Баяцца, нарэшце, згубіць свае цёплыя і наседжаныя месцы ў мяккіх скураных крэслах. Баяцца так, што адзін пень за тры ваўкі здаецца...

Так што, браток мой, дыктатура ўлады абумоўлівае для той жа ўлады і неадольны страх за свае ўчынкі перад людзьмі. А страх, мы ж ведаем, каго хочаш можа ператварыць у чэрнь. Ведама ж: напалоханая варона і вераб'я баіцца. Так што, браток, калі разабрацца, то добра таго страшыць, хто сам баіцца. А так трэба жыць па народнай мудрасці: калі Бога малюеш, пра чорта не думай.

Ды ў рэшце рэшт, ці надакучыць калі-небудзь нам гэта, ці кране нас за сэрца ўвесь гэты бедлам? Калі мы ачомаемся і зразумеем, што нашай краінай, нашым лёсам, будучыняй нашых дзяцей і ўнукаў верхаводзяць многія з тых, хто жыве для сябе, грабе пад сябе, бяздумна транжырыць нашу казну і кіруе эканомікай, быццам граюць атопкам на цымбалах?!

Ці будзеш ты, браток-беларус, і надалей трываць, маўкліва глядзець, застаючыся без'языкай, бяздумнай і паслухмянай істотай, з'яўляючыся для ўлады і надалей стрыжнем паняцця "чэрнь" і пралетарскай апорай для дыктатарскіх дзеянняў тых, хто на табе ездзіць і яшчэ нагайкай паганяе?

Але хачу напаследак цябе трошкі абнадзеіць: не ўсё згублена, браток! У тых абставінах, у якіх апынуліся мы з табой, адзінае месца, дзе кожны з нас, не аглядваючыся і не баючыся, можа свабодна выказаць сваю думку, — гэта выбарчая кабіна для тайнага галасавання. Ты толькі ўдумайся: улада для такіх, як ты, пакінула толькі адзінае месца, дзе табе яшчэ пакуль што дазваляецца свабодна сказаць тое, што ты думаеш (калі, вядома, думаеш). А калі так, то давай выкарыстаем гэтую адзіную для нас магчымасць. І не бойся, што за табой там будуць сачыць, скажам, відэакамеры ці будзе падглядваць участковы міліцыянер. Ты падумай: у нас толькі ў адзіным месцы ўстанавілі электронную сістэму галасавання — гэта ў парламенце. А на выбарчых участках па ўсёй Беларусі па-ранейшаму абыходзяцца дзедаўскім спосабам: бюлетэнямі, алоўкамі, лічыльнікамі з костачкамі. Ну, у лепшым выпадку — арыфмометрам ці электронным калькулятарам. Электроніка на выбарах пры сённяшнім становішчы ў Беларусі — гэта падзея XXI стагоддзя ў горадзе і XXII — на вёсцы. Так што май на ўвазе гэтую акалічнасць і, затуліўшыся за шырму, галасуй так, як падкажа табе сумленне, сэрца і паразумнеўшая на той час галава...

Няўжо перавяліся на Беларусі мудрыя і мужныя, талковыя і таленавітыя людзі?

Нарэшце, няўжо мы ўсе лічым гэта правільным, калі ўнутраную і знешнюю палітыку робіць адзін чалавек, а кожны з нас быццам без'языкі раб, халуй, прыслужнік, а ўвогуле — чэрнь, пагаджаецца з тым, што нас, як авечак, вядуць на "бойню"?

Братка-беларус, ці ўстрапянецца ў цябе ад гэтых слоў на сэрцы хоць бы адна жылка, ці не кальне ў галаву, каб ажывіць шэрае рэчыва ў мазгу? Сядзь, калі ласка, задумайся! Не ўспрымай у штыхі словы і думкі аўтара, а паспрабуй спакойна паразважаць. Ты ж умееш! Ты ж самой прыродай, самім Богам надзелены розумам, мудрасцю, разважлівасцю. Не дай сябе загіпназаваць, залюляць салодкімі казкамі пра наша добрае жыццё, пра яго пастаяннае паляпшэнне. Пратры вочы і паглядзі наўкола! Што ты бачыш? Ці бачыш ты вакол сябе радасных і задаволеных жыццём людзей, зніжэнне цэн, рост рэнтабельнасці і прадукцыйнасці працы на заводах і ў вёсках, павышэнне зарплаты і пенсій, якія б яшчэ да іх павышэння не з'ядалі рост цэн і гіперінфляцыя? Ці застаюцца ў цябе такія-сякія грошы на лекі, на цукеркі ўнукам, на новыя шкарпэткі і шалік, на аўтобус, каб дабрацца ў сабес ці раённую паліклініку, а больш маладым — ці хапае, каб сяк-так пракарміць сям'ю?

Давай мы з табой, братка-беларус, сядзем разам і паразважаем спакойна. Вось ты кажаш, што зараз усім цяжка. А ты думаў, чаму гэта адбылося? Можа, таму, што мы вельмі шмат часу верылі прэзідэнту? Няўжо ты думаеш, што ён валодае нейкай магічнай сілай, што вось так возьме ды і дасць нам лепшую жытку? Магічная сіла заключаецца ў тым, што прэзідэнт добра ведае, што нам вельмі хочацца, а таму, каб наталіць нашу смагу хоць трошкі, абяцае, абяцае... То праз паўгода, то яшчэ праз паўгода. А калі мы пачалі думаць, што нам лапшу на вушы вешаюць, то прэзідэнт зрабіў больш хітры ход: маўляў, калі не дам лепшую жытку праз два гады, то завярнуся і паеду назад на сваю Шклоўшчыну. І мы зноў паверылі... А можа, мы такія ўжо дурнавата-даверлівыя, што нас можна, як тых вераб'ёў, правесці на мякіне? Вось і па сённяшні дзень ён яшчэ не стаміўся і ўсё абяцае, абяцае. А шмат хто з нас верыць, бо, як тая жанчына, любяць яго не розумам, а вушамі... Сам жа ведаеш, што абяцанка, як цацанка, а дурню яна — у радасць...

**в.Мазалі**
**Маладзечанскага раёна.**

# Визовый отдел посольства ФРГ справил новоселье

Новый адрес получил визовый отдел посольства Федеративной Республики Германии в Минске. Он переехал на улицу Буденного, 10. Теперь граждане Беларуси, желающие посетить ФРГ, могут обращаться туда за получением разрешения на въезд в эту страну.

"Переезд из находившегося в плохом техническом состоянии здания по улице Старовиленская, 44, удалось завершить за одну неделю, — сказал на торжественном праздновании новоселья руководитель отдела права и экономики посольства ФРГ в Минске Стефан Дельфс. — И хотя новый офис находится буквально в десяти минутах ходьбы от станции метро "Тракторный завод", в перспективе мы подыскиваем подходящее здание в центре города, чтобы визовый отдел был легко доступен для граждан Беларуси и как можно большее их число имело возможность съездить в Германию по личным или служебным делам".

Первые посетители, побывавшие в новом помещении, смогли убедиться в том, что офис с современными коммуникациями позволяет обслуживать клиентов более качественно и эффективно. Документы принимаются одновременно у восьми окон и проходят обработку значительно быстрее. Это дает надежду, что визовый отдел успешно справится с ожидаемым в летние месяцы наплывом посетителей.

В церемонии новоселья приняли участие Временный поверенный в делах Федеративной Республики Германии в Беларуси Петер Кольб, сотрудники немецкого посольства, представители деловых кругов и общественности Минска.

**Валентина МЕНЬШИКОВА, БелТА.**

# Внимание: семинар

Интересное событие произойдет в Минске с 20 по 22 ноября. В эти дни состоится Республиканский обучающий семинар Международного контактного клуба "I.C.C.". Основной задачей "I.C.C." является предоставление членам клуба преимуществ в выборе товаров и услуг по сниженным ценам и обеспечение людей возможностью для ранней диагностики и профилактического лечения. Клуб создан в 1993 году в Австрии, а его белорусское отделение открыто в 1997 году. На сегодняшний день в РБ насчитывается более 800 членов клуба. Международное движение "Партнерство ради здоровья" поддерживается в ста странах мира. Среди членов клуба — такие известные организации и предприятия, как ЗАО "Белорусское агентство Содействия иностранным инвестициям", Национальный центр Олимпийской подготовки по большому и настольному теннису, Радошковичский керамический завод, МШФ "Милавица", Белорусская судоходная компания, СП "Космос ТВ" и др. Среди партнеров клуба — "Экомедсервис", ООО "Лодэ", предприятие Баркос Белои, ПКО "Брег", ООО "Женев", "BST ltd", СП "Италмода", ПКП "Филипп", ООО "Сипласт", ООО "Солид", MDF-Communication, "Белвалекс", "BelComData", "Canada Global Path ltd", "Brok Fuds", ИП "Кахес Варенхандель", ПТКП "Ялина" и др.

В программе семинара — доклады на экономическую, медицинскую и психологическую тематику. Для выступления приглашены президент "I.C.C." доктор Похл Тибор, председатель депутатской комиссии по здравоохранению РБ С.Н.Говорушкин, главный врач диагностического центра МТЗ В.П.Валькевич, президент Союза предпринимателей и арендаторов РБ Т.П.Быкова, заместитель председателя Белорусской конфедерации предпринимателей В.К.Холопик, директор Украинского онкологического центра П.И.Олийниченко. В рамках семинара также пройдет выставка товаров партнеров и членов клуба стран СНГ и Балтии. Место проведения — **Национальный Центр "шахмат и шашек", ул.К.Маркса, 10.**

**Знай наших!**




В Витебске открыт третий по счету фирменный магазин производственного объединения "Витязь". Сегодня ПО "Витязь" — крупнейший производитель отечественных телевизоров, которые создаются с применением новейших технологий и разработок, комплектуются элементами ведущих фирм мира. Готовы к серийному выпуску телевизионные приемники седьмого поколения с размером экрана по диагонали 63 см и 72 см. Продукция "Витязя" пользуется широким покупательским спросом.

**На снимках:** *новый торговый дом "Витязь" в Витебске; в торговом зале.*

**Фото Николая ПЕТРОВА, БелТА.**

**Мир и мы**

# Белорусская "Жизель" покорила швейцарскую публику

При полном аншлаге прошли все три спектакля Минского театра музыкальной комедии в Швейцарии. На суд искушенной публики белорусские артисты представили новую версию балета "Жизель" в постановке главного балетмейстера театра Нины Дьяченко.

Как сообщили корреспонденту БелТА в пресс-службе белорусского МИД, гастроли балета Минского театра музыкальной комедии в Швейцарии прошли под патронажем Посольства Республики Беларусь в этой стране, а организатором их выступила швейцарская фирма "Pro Musica".

# Сказки детей Беларуси будут читать во всем мире

Необычная книга "Сказки детей Беларуси" издана на английском языке. Ее выпустил Белорусский фонд социальной поддержки детей и подростков "Мы — детям" совместно с издательством "Юнацтва". Как сообщили корреспонденту БелТА в фонде, финансовую поддержку в осуществлении этого проекта оказали его американские партнеры из штата Техас.

Книга "Сказки детей Беларуси" появилась в результате конкурса под названием "Всем по сказке", который три года назад провел фонд "Мы — детям". В нее вошло 57 сказок, написанных белорусскими детьми на русском и белорусском языках. Теперь же эти творения смогут прочитать и их сверстники в других странах.

**Эдуард ПИВОВАР.**

**У наших соседей**

# Евгению Войтовичу вручена высокая награда Литвы

Президент Валдас Адамкус вручил 13 ноября Евгению Войтовичу, завершающему свою миссию в качестве посла Беларуси в Литве, орден Великого Князя Литовского Гедиминаса 2-й степени. В президентском декрете говорится, что высокой награды дипломат удостоен "за заслуги по развитию двусторонних литовско-белорусских отношений", сообщает информационное агентство ЭЛЬТА.

Принимая награду, Евгений Войтович выразил удовлетворение состоявшейся на границе встречей президентов обоих государств. Дипломат отметил: "В отношениях между Литвой и Беларусью нет больших проблем, но существуют еще области, где следует поработать".

# В заснеженный Минск придет "Белорусская музыкальная осень"

Судя по погоде последних дней, Международный фестиваль искусств "Белорусская музыкальная осень", который пройдет с 20 по 30 ноября, смело можно переименовать в "музыкальную зиму". Однако, несмотря на погодные перипетии, этот смотр вновь обещает стать заметным явлением в культурной жизни страны. Так считает художественный руководитель Белорусской государственной филармонии народный артист республики Юрий Гильдюк. О программе предстоящего фестиваля он рассказал журналистам на пресс-конференции, которая состоялась в стенах филармонии.

В нынешнем году фестиваль искусств празднует свой серебряный юбилей — 25 лет. Первый концерт, который состоится 20 ноября, организаторы музыкального форума посвятили открытию 53-й сессии Генеральной Ассамблеи ООН. Беларусь в числе 45 стран мира принимает участие в больших искусствоведческих акциях, которые по замыслу ООН должны способствовать миру и объединению наций. В день открытия фестиваля прозвучат произведения Баха, Прокофьева и Скрябина в исполнении известного российского пианиста, лауреата международных конкурсов Бориса Березовского. Музыкант специально прилетит в Минск из Лондона, где он живет и работает последние годы.

На фестивале "Белорусская музыкальная осень" пройдет парад лучших белорусских коллективов и исполнителей из Польши, Литвы, России, Франции. Впервые в рамках фестиваля состоится концерт мастеров белорусской эстрады, посвященный 10-летию со дня образования Государственного объединения "Белконцерт". 23 ноября на сцену Концертного зала филармонии выйдут Виктор Вуячич, группа "Четвертое измерение", ансамбли "Сябры" и "Чараўніцы", Инна Афанасьва, Алеся.

**Оксана ОСПИЩЕВА.**

# Холода толкают бомжей на преступления

С наступлением холодов в Минске резко возросло количество так называемых сезонных преступлений, совершаемых бомжами.

Как сообщили БелТА в Главном управлении внутренних дел Мингорисполкома, в осенне-зимний период увеличивается число уличных грабежей, краж из гардеробов предприятий и учреждений. Кроме того, участились случаи хищений и материальных ценностей из подвалов и других подсобных помещений, расположенных в жилых домах. Только в октябре зафиксировано 30, а с начала года 200 таких краж.

В связи с этим сотрудники столичной милиции вместе с представителями жилищно-коммунальных служб предпринимают меры по предотвращению проникновения бомжей на чердаки и в подвалы домов. А руководителям предприятий и организаций предложено позаботиться о сохранности личных вещей сотрудников и посетителей в гардеробах.

**БелТА.**

# ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКА!

Адпаведна дагаворам, заключаным з рэдакцыямі (выдавецтвамі), пры афармленні падпіскі прадпрыемствы сувязі ажыццяўляюць пасрэдніцкія паслугі па распаўсюджванню і дастаўцы, таму за нявыхад, несвоечасовы выхад з друку газет і часопісаў адказнасць перад падпісчыкам нясе рэдакцыя (выдавецтва).

Праверце правільнасць афармлення абанемента, на абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай картачкай запаўняецца падпісчыкам чарніламі, разборліва без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі каталога.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" выконваецца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

